Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 800.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 2-36-32-83

# НАВІНЫ



Аўторак, 1 верасня 1998 г. | № 91 | Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## За долар ужо даюць 85 тысяч рублёў

**Курс наяўнага долара рос увесь мінулы тыдзень. У пятніцу, 28 жніўня, на «чорным рынку» за 1 долар давалі ўжо 85 і нават 90 тыс.рублёў.**

У выхадныя дні курс часова зменшыўся, але не на шмат. Учора ён дасягаў у сярэднім 85 тысяч рублёў. Але не кожны валютчык купляе «зялёныя» па такім курсе. Вельмі няпэўны стан рынку прыводзіць да вялікай розніцы: напрыклад, у нядзелю ў адных валютчыкаў можна было атрымаць толькі 75 тысяч за долар, а іншыя гатовыя былі даць 85 тысяч.

А вось купіць валюту практычна немагчыма: чакаючы далейшага павышэння курсу, валютчыкі трымаюць «цвёрдыя» грошы пры сабе.

**А.С.**

## Даражэе не толькі імпарт

**У беларускіх крамах чакаюць чарговага павышэння коштаў на прадукты.**

Па звестках з міністэрства сельскай гаспадаркі, у бліжэйшы час падаражэе хлеб масавых гатункаў і мяса птушкі.

У крамах па-ранейшаму дзейнічаюць «нормы водпуску тавараў у адны рукі». Згодна з імі адзін пакупнік мае права набыць 1 кг каўбасы, дзве птушкі і два боханы хлеба. Сустракаецца ліміт і на продаж цукру. Напрыклад, у краме непадалёк ад нашай рэдакцыі, вісіць абвестка, што прадаюць толькі па 2 кілаграмы цукру ў адны рукі. Амаль штодня мяняюцца цэннікі ў вулічных кіёсках, а імпартныя тавары паступаюць на паліцы крамаў таксама па новых, больш высокіх коштах. У мінскім гандлёвым доме "На Нямізе" наогул зніклі імпартныя тэлевізары, у ГУМе прапануюць адзіны *Panasonik*, а ў ЦУМе гэтыя тавары значна падаражэлі.

Пакупнікі пачалі жывей цікавіцца айчыннай мэбляй. За апошнія дні шмат такіх пакупак было зроблена па безнаяўным разліку, што значна выгадней, а некаторыя імкнуцца ўкласці свае грошы ў ювелірныя вырабы.

Як паведамілі ў міністэрстве гандлю, тавараабарот за апошнія месяцы па асобных групах тавараў падняўся на 180 працэнтаў у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года.

Тым часам на аўтазаправачных станцыях па-ранейшаму адчуваецца голад на бензін. Тут устаноўлены ліміт — 40 літраў на адну машыну.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Урад раіць выдаваць заробак натурай

**Запазычанасць па зарплаце ў Беларусі павялічылася за апошнія тры месяцы амаль у два разы.**

Агульная сума запазычанасці дасягнула на пачатак жніўня 1,7 трлн. рублёў, 80 працэнтаў яе прыпадае на калгасы і саўгасы. У некаторых гаспадарках, напрыклад, калгасе «Дуброўка» Крупскага раёна Мінскай вобласці ці саўгасе «Людзіневічы» Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці з заробкамі не разлічыліся яшчэ за зімнія месяцы.

Улічваючы, што расійскі крызіс не лепшым чынам адаб'ецца на прыбытках беларускіх вытворцаў, трэба чакаць далейшага росту запазычанасці. Тым часам дзяржава не плануе радыкальных мераў па вырашэнні ўзнікшых праблемаў. Урад на сваім апошнім пасяджэнні толькі парэкамендаваў Нацбанку выдаваць ільготныя крэдыты для прадпрыемстваў (не зважаючы на тое, што гэта паўплывае на ўзровень інфляцыі) і параіў выдаваць заробак натурай (асабліва ў калгасах і саўгасах).

**Алесь САДОЎСКІ**






*1 верасня — пачатак навучальнага года. У 235 мінскіх школаў прыйдуць больш за 260 тыс. вучняў. Такім чынам, кожны шосты жыхар сталіцы — школьнік. А наогул па Беларусі сёлета за парты сядуць 1 млн. 570 тысяч вучняў, з іх 164 тысячы дзяцей прыйдуць у школу ўпершыню.*

## Віват, студэнт!

Сёння а 19 гадзіне на плошчы Незалежнасці ў Мінску Беларускі дзяржаўны універсітэт ладзіць вялікае свята для сваіх амаль дзвюх тысяч першакурснікаў пад назвай «Vivat, студэнт!».

Як паведамілі нам у дырэкцыі культуры Белдзяржуніверсітэта, свята для першакурснікаў пачнецца з тэатралізаванага шэсця, пасля якога выступяць рэктар БДУ Аляксандр Казулін і дэканы ўсіх факультэтаў. Першакурснікі БДУ пройдуць урачысты абрад пасвячэння ў студэнты.

Пасля заканчэння «афіцыйнай» часткі пачнецца частка віншавальна-танцавальная. Першакурснікаў будуць віншаваць тэлевізійная праграма «Зорная ростань» разам з вядучай Аленай Спірыдовіч, каманда вясёлых і знаходлівых БДУ, мадэльнае агенцтва Сашы Варламава, а таксама найпрыгажэйшыя дзяўчаты БДУ — фіналісткі конкурсу «Міс Універсітэт-98». А пад самае заканчэнне дыскатэкі мусіць выступіць расійская група «На-На» — калі нічога надзвычайнага не здарылася, то сёння з раніцы «нанайцы» ўжо высадзіліся ў Мінску.

На свята БДУ запрашае ўсіх, не толькі сваіх студэнтаў. Па словах супрацоўнікаў дырэкцыі культуры БДУ, фэст будзе вельмі маляўнічым — са зменнымі дэкарацыямі, прафесійным асвятленнем і г.д. Падчас святкавання можна будзе падсілкавацца ў буфетах, што будуць стаяць на плошчы Незалежнасці. Свята першакурснікаў скончыцца толькі а палове дванаццатай ночы.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Не ў клас, а ў поле

**ВНУ, тэхнікумы і ПТВ Віцебскай вобласці тэрмінова перакройваюць свае вучэбныя планы.**

Заўтра, 2 верасня, амаль 9 тысяч студэнтаў і навучэнцаў па рашэнні аблвыканкама на месяц выедуць у калгасы. Выканаўчая ўлада апраўдвае гэтае рашэнне «кепскім надвор'ем» і праблемамі з уборкай ураджаю. «Вертыкалі» дазволена адрываць ад вучобы і старэйшых школьнікаў.

Віцебскі аблвыканкам, аднак, прадугледзеў, што калі гаспадаркі парушаць умовы дагавораў з навучальнымі ўстановамі, студэнты змогуць вярнуцца да навукі раней, чым праз месяц.

*БелаПАН*

## Баявыя традыцыі Нацбанка

***Ветэранам банкаўскай сферы пашанцавала***

Нацыянальны банк зацвердзіў план мерапрыемстваў па праведзенні ў 1999 г. Міжнароднага года састарэлых людзей. У прыватнасці, адміністрацыі даручана *«пастаянна накіроўваць віншаванні ветэранам Нацбанка»* і *«практыкаваць уручэнне прадуктовых набораў да святочных дзён і юбілейных дат».*

Планам прадугледжана і *«арганізацыя сістэматычных сустрэч заслужаных ветэранаў банкаўскай сістэмы з моладдзю з мэтай выхавання моладзі на лепшых баявых і працоўных традыцыях старэйшага пакалення».*

*БелаПАН*

# «Крымінальнае» мастацтва

**Маляванне на сценах становіцца ў Беларусі заняткам вельмі небяспечным. Аматараў мастацкага жанру графіці цяпер прыцягваюць да крымінальнай адказнасці.**

**Напрыканцы мінулага тыдня ў судзе Ленінскага раёна Мінска слухалася адна з такіх справаў.**

### Старажытныя каштоўнасці

Студэнты мінскай мастацкай вучэльні Ігар Корсак і Павел Селівончык абвінавачваліся ў злосным хуліганстве па артыкуле 201 ч.2 КК Беларусі. Як вынікала з матэрыялаў крымінальнай справы, віна хлопцаў заключалася ў тым, што раніцай 2 чэрвеня яны наклеілі на некалькіх прыпынках транспарту і электрашчытавой станцыі ў мікрараёне Серабранка рэкламныя ўлёткі арганізацыі «Белы легіён» і намалявалі фарбай эмблемы, нібыта падобныя на свастыку. Выкліканы нейкім пільным грамадзянінам міліцэйскі нарад затрымаў Корсака з Селівончыкам і даставіў хлопцаў у пастарунак. На іх заявлі крымінальную справу і выпусцілі да суда пад падпіску аб нявыездзе.

Суддзя Таццяна Жулкоўская прапанавала Ігару і Паўлу расказаць, як усё адбывалася на самой справе. Абодва хлопцы прызналі, што сапраўды клеілі ў Серабранцы ўлёткі «Белага легіёна» з заклікам — «Стань побач з намі!» і малявалі на сценах сімвал гэтай арганізацыі, які мае назву «спарыш», шырока выкарыстоўваецца ў беларускіх нацыянальных арнаментах з дахрысціянскіх часоў і да фашысцкай свастыкі не мае ніякага дачынення. Корсак і Селівончык тлумачылі свае дзеянні тым, што яны, як будучыя мастакі, даўно цікавяцца дахрысціянскім перыядам беларускай гісторыі. Таму іх і зацікавіла дзейнасць арганізацыі «Белы легіён», якая, па словах хлопцаў, прапагандуе паганскія культурныя каштоўнасці.

### Садраць тры скуры

Некаторыя арганізацыі вырашылі за кошт падсудных папраўіць сваё матэрыяльнае становішча. Так, напрыклад, прадпрыемства «Мінскэнерга» прасіла суд спагнаць з хлопцаў больш за 54 мільёны рублёў на рамонт электрашчытавой будкі, на якой быў намаляваны толькі адзін значок. Энергетыкі хацелі за гэтыя грошы правесці капітальны рамонт свайго аб'екта. Натуральна, з гэтым не маглі пагадзіцца ні самі хлопцы, ні іх адвакаты Таццяна Вардомская і Таццяна Станкевіч. Абаронцы заявілі суду, што сума матэрыяльнага ўрону непамерна завышаная, а прадстаўнік «Мінскэнерга» ў суд так і не з'явіўся.

### Адвакаты і пракуроры

Адвакаты і грамадскі абаронца Любоў Лунёва таксама настойвалі, каб суд зняў з іхніх падабронных абвінавачванне ў распаўсюджванні фашысцкай сімволікі і прадставілі суду заключэнне экспертаў-мастацтвазнаўцаў, з якога вынікала, што знакі, намаляваныя Корсакам і Селівончыкам, сапраўды з'яўляюцца часткай старажытнага беларускага арнаменту. Дарэчы, элементы гэтага арнаменту выкарыстаныя ў аздабленні цяперашняга дзяржаўнага сцяга РБ.

Тым не менш пракурор Слука лічыў, што падсудныя здзейснілі злоснае хуліганства, і прасіў суд пакараць Корсака і Селівончыка адным годам пазбаўлення волі з адтэрміноўкай прыгавору. Прасочваючы аналогіі з прыгаворам, вынесеным паўгода назад маладафронтаўцам Аляксею Шыдлоўскаму і Вадзіму Лабковічу. Нагадаем, што за напісанне антыпрэзідэнцкіх лозунгаў Шыдлоўскага асудзілі на 1,5 года пазбаўлення волі, а Лабковіча — на такі ж тэрмін з адтэрміноўкай прыгавору.

### Прысуд

Учора прагучаў прысуд Корсаку і Селівончыку. Суддзя Таццяна Жулкоўская прыняла пад увагу ўсе акалічнасці гэтай справы і вырашыла задаволіць просьбу адвакатаў. Ігар Корсак і Павел Селівончык аштрафаваныя на 2,5 мільёна рублёў. Суд зняў абвінавачванне ў распаўсюджванні фашысцкай сімволікі. З хлопцаў не будуць спаганяць грошы за рамонт аб'ектаў.

На першы погляд, пакаранне здаецца не такім ужо і страшным. Але факт застаецца фактам: і Корсак, і Селівончык асуджаныя па артыкуле Крымінальнага кодэксу. І цяпер у анкетных дадзеных яны павінны будуць пісаць і судзімасці.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Хартыстаў асудзілі

**Суд Маскоўскага раёна Мінска прызнаў вінаватымі актывістаў Хартыі'97 Дзмітрыя Бандарэнку, Алега Бебеніна і Валерыя Шчукіна ў правядзенні масавага шэсця і пікетавання 3 ліпеня гэтага года.**

IREX ProMedia

Бандарэнку і Бебеніну суд вынес папярэджанні, а Валерый Шчукін аштрафаваны на 5 мільёнаў рублёў.

Нагадаем: 3 ліпеня, падчас свята горада, група праваабаронцаў выйшла на Кастрычніцкую плошчу Мінска, і перад публікай разгарнула транспарант «Свабоду палітзняволеным!» *(гл.здымак)*. У руках Валерыя Шчукіна быў плакат з заклікам «Свабоду дэпутату Андрэю Клімаву!». Гэтыя дзеянні, сведкамі якіх сталі тысячы жыхароў Мінска, суд палічыў падставай для пакарання.

*БелаПАН*

## Штрафнікі ў салдацкіх ботах

**У дысцыплінарным батальёне ўзброеных сілаў Беларусі адбываюць пакаранне каля 350 ваеннаслужачых.**

Дысбат размяшчаецца пры ваенным гарадку «Масюкоўшчына» ў Мінску. З 350 салдатаў і сяржантаў тэрміновай службы больш за 35% асуджаныя за нестатутныя ўзаемаадносіны (інакшай кажучы — за дзедаўшчыну), 20% — за самавольнае пакіданне вайсковых частак, каля 10% — за крадзяжы.

*БелаПАН*

## Жанчына жыла ў нары

**Ажно 15 рэйсаў давялося зрабіць грузавым аўтамашынам, каб вывезці з аднапакаёвай кватэры 50-гадовай жыхаркі Магілёва старое «дабро», якое яна назапашвала больш чым 10 гадоў.**

Пра гэты выпадак расказала газета «Магілёўская праўда». Кватэра жанчыны была цалкам забітая розным смеццем і друзам. Дзверы ледзь-ледзь прычыняліся, а гаспадыня прабіралася быццам звер у нару.

Кабету завуць Паліна, раней яна была зусім нармальная. Усё пачалося пасля смерці мужа: яна стала хадзіць па звалках, сметніцах і прыносіць дадому ўсё, што там знаходзіла: кардонныя скрыні, бульбяныя лупіны, сатлелае адзенне, рэшткі бытавых прыбораў... Калі не хапіла месца ў кватэры, жанчына заняла падвал. Два гады таму падвал ужо ачышчалі: спатрэбіліся 2 машыны!

Начальнік домакіраўніцтва В.Міхневіч кажа, што яны даўно ведалі пра дзівацтвы Паліны. Шмат разоў на яе скардзіліся жыхары, але кватэра была прыватызаваная і гаспадыня нікога да сябе не пускала. Каб вырашыць праблему, давялося ствараць спецыяльную камісію: спецыялісты прыйшлі да высновы, што гэтая кватэра ўяўляе «эпідэмічную і пажарную пагрозу».

Цяпер Паліна часова знаходзіцца ў псіхіятрычнай бальніцы. Але сур'ёзных захворванняў у яе не знайшлі, і хутка жанчына зноў вернецца ў сваю кватэру.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Што хацелі злодзеі?

**Удзень 27 жніўня двое невядомых узламалі дзверы кватэры галоўнага рэдактара газеты «Рабочы», члена аргкамітэта Хартыі'97 Віктара Івашкевіча. Гаспадар кватэры ў той час быў на працы.**

Двух узломшчыкаў бачыла суседка В.Івашкевіча. З яе словаў, гэта былі «добра апранутыя мужчыны». Выкліканыя супрацоўнікі міліцыі зафіксавалі факт узлому, правялі апытанне сведкаў, знялі адбіткі пальцаў. Па словах В.Івашкевіча, каштоўныя рэчы, што былі ў кватэры, зламыснікі не кранулі. Узломшчыкаў цікавілі дакументы, звязаныя з ягонай палітычнай дзейнасцю і дзейнасцю Свабоднага прафсаюза, — такую выснову робіць В.Івашкевіч. Гэтае здарэнне ён расцэньвае як акцыю запалохвання.

Як вядома, на восень гэтага года запланаваныя масавыя выступленні беларускіх прафсаюзаў. Бюлетэнь «Рабочы», наклад якога сёння складае 50 тысяч асобнікаў, заклікае рабочых да барацьбы, таму Івашкевіч не выключае, што ў будучыні спробы ўціску на яго і на рэдакцыю могуць паўтарыцца.

*БелаПАН*

## Замест пасялковага савета – банк

**Іўеўскі райвыканкам прадаў «Беларусбанку» будынак былога пасялковага Савета дэпутатаў.**

Памяшканне вызвалілася пасля таго, як у невялікіх райцэнтрах прэзідэнт аб'ядная гарадскую ўладу з раённай. Кошт пакупкі — 1 мільярд 272 мільёны рублёў.

**Андрэй ДУРЭЙКА**

## Касцёл кардынала Свёнтка

**Напрыканцы мінулага тыдня ў райцэнтры Пружаны Брэсцкай вобласці прайшлі ўрачыстасці з нагоды асвячэння касцёла Унебаўзяцця найсвяцейшай Дзевы Марыі.**

Мясцовыя каталікі зноў атрымалі свой храм. Пабудаваны ён быў у канцы XIX стагоддзя. Пасля Другой сусветнай вайны касцёл зачынілі, яго тагачасны пробашч ксёндз Казімір Свёнтэк быў арыштаваны і сасланы ў Сібір.

Доўгія гады будынак належаў аддзелу культуры. Па хадайніцтве мясцовай каталіцкай парафіі і асабіста Казіміра Свёнтка, які цяпер з'яўляецца мітрапалітам Мінскім і Магілёўскім, будынак вернуты. Дзякуючы ахвяраванням вернікаў і спонсараў стала магчымым аднаўленне касцёла. Асвяціў яго сам кардынал Свёнтэк.

*БелаПАН*

## Смерць у пяску

**У Бабруйску трагічна загінуў 13-гадовы хлопец: яго засыпала пяском.**

Трагедыя адбылася на мінулым тыдні на тэрыторыі мясцовай будаўнічай фірмы. Як лічыць камісія, што даследавала гэтае трагічнае здарэнне, хутчэй за ўсё падлетка засыпала машынасамазвал.

**Іван ЗАСАДА**

## Меладзе забаяўся крызісу

**Фінансавы крызіс у Расіі ўдарыў па беларускіх аматарах расійскай эстрады: адмененыя гастролі Валерыя Меладзе.**

Гастролі, якія ладзіла Магілёўская філармонія, павінны былі прайсці ў Мінску, Пінску і Магілёве. Але імклівае падзенне расійскага і беларускага рублёў прымусіла адмовіцца ад гастроляў: філармонія не можа выплаціць Валерыю Меладзе абяцаныя ганарар.

**Іван ЗАСАДА**



**Зянон ПАЗЬНЯК**

# Павольнае забіванне людзей

Беларускага вязня сумлення Аляксея Шыдлоўскага разам з Вадзімам Лабковічам паўгода трымалі ў турме без суда. Над Аляксеем здзекаваліся і збівалі так, што юнак трапіў у турэмны шпіталь. Пасля палітычнай судовай расправы, якую зрабілі над ім у лютым гэтага года, ён адбываў прысуд у змрочным Пішчалаўскім астрозе ў Мінску. Потым юнака перавялі ў турму ўзмоцненага рэжыму, дзе яму адразу стварылі невыносныя ўмовы існавання. 30 ліпеня спецыяльная камісія разглядала пытанне аб далейшым утрыманні Шыдлоўскага ў турме і прыйшла да высновы, што юнак, які пішa на сценах «Жыве Беларусь!», асоба небяспечны для грамадства.

Здароўе Аляксея, які ў турме спаткаў свае 19 гадоў, ужо моцна падарвалі (хворыя ныркі, сэрца, страўнік). Цяпер яно яшчэ больш пагоршылася. З ім абыходзяцца жорстка, з лютай нянавісцю. Яго лісты на волю турэмная адміністрацыя і ахова рвуць толькі за тое, што яны напісаныя па-беларуску. Турэмшчыкі цынічна папярэдзілі Аляксея, што створаць яму ўмовы, як у пекле.

Напярэдадзе ў Аляксея Шыдлоўскага яшчэ паўгода несправядлівага прысуду, цярпення, здзекаў і пакутаў — жыцця «як у пекле».

У пачатку жніўня маці дэпутата Андрэя Клімава наведала сына ў турме. Згодна яе словаў, А.Клімаў амаль не мае магчымасці спаць. Яго ўтрымліваюць у камеры, дзе разам з ім сядзяць яшчэ 4 чалавекі. На пяцёх чалавек толькі два спальныя месцы (адзін двухярусны ложак). Спяць па чарзе. А Клімаву выпала спаць днём. Але днём выспацца немагчыма (выклікі на допыты, да адваката, сняданак і г.д.). Паспаць удаецца толькі 1—2 гадзіны. Адміністрацыя турмы і пракурор па наглядзе за ўтрыманнем вязняў дзейнічаюць заадно. Напрыклад, перад прыходам пракурора «лішніх» сукамернікаў выдалілі і паставілі дадатковы ложак.

«Скаргі ёсць?» — спытаўся пракурор у Клімава. Той па шчырасці нармальнага чалавека адказаў: «Стала лепей, ложак прынеслі і людзей паменела».

Але як толькі пракурор зышоў, ложак зноў вынеслі, а «лішніх» вязняў вярнулі. Гэта класічны спектакль турэмных катаў, добра адпрацаваны за дзесяцігоддзі бальшавізму.

Акрамя недахопу сну, дрэнная харчаванне і задухі, А.Клімаў некалькі разоў трымаў галадоўкі. Усё гэта падарвала яго здароўе, 30 ліпеня ён трапіў у турэмны шпіталь. Лекар прывычна кажа, што стан хворага здавальняючы. Але пры гэтым Клімаву кожныя тры гадзіны мераюць крывяны ціск (што робіць звычайна пры гіпертанічным крызе).

Сцэнары здзекаў Лукашэнкі над людзьмі вядомыя даўно: пратрымаць вязня без суда ў турме і, пад выглядам следства, падарваць здароўе, зламаць псіхічна, разбурыць фізічна і выпусціць (калі яшчэ выпусціць) «руіну», інваліда, няздольнага да працы, да актыўнай грамадскай і інтэлектуальнай дзейнасці.

Такая «аперацыя» была свядома прапрацаваная з Тамарай Віннікавай, цяпер робіцца з юнаком Аляксеем Шыдлоўскім, 74-гадовым Васілём Старавойтавым, Васілём Ляўновым, Андрэем Клімавым і мноствам іншых, якія альбо беларускія патрыёты, альбо бізнесмены, што не хацелі даваць грошы ў чорную касу. Відавочна, гэтымі ахвярамі апетыт «усенароднa абранага» і яго заплечнікаў не ўтаймуецца. Існуе паталагічная патрэба — і яна будзе задавальняцца далей.

Ніякай літасці тут няма і не будзе, ніякае права, акрамя права насілля, тут не існуе, ніякія законы не дзейнічаюць. Трэба ведаць характар НКВД, разбірацца ў асаблівасцях параноі і ўсведамляць цёмную помслівую і нясказана жорсткую прыроду Лукашэнкі, каб не мець ілюзіяў адносна яго паводзінаў і ўчынкаў.

На жаль, людзі ў асноўным аналізуюць свой уласны вопыт, а не чужы, і не схільныя давяраць інтэлекту, калі ім нешта здаецца інакш.

Тым не менш трэба імкнуцца зменшыць ахвяры лукашызму. Гэта ёсць патрабаванне любога змагання са злом, хоць ніякая барацьба не абыходзіцца без ахвяраў. Перш за ўсё трэба ведаць прыроду рэжыму, матывы і характар яго паводзінаў. Трыманне людзей у турме не ёсць для Лукашэнкі толькі метад пакарання і застрашэння. Гэта, паўтараю, перш за ўсё ёсць метад знішчэння асобы. Ужываецца прыём павольнай смерці. Павольнасць (дакладней — усведамленне працэсу павольнасці) прыносіць сатысфакцыю і псіхічнае задавальненне дыктатару. Калі ён уяўляе жаласны голас і дрыжачыя рукі старога В.Старавойтава, некалі самаўпэўненага і ганаровага «героя сацыялізму», Лукашэнка напаўняецца пачуццём асалоды і радасным помслівым трымценнем. Гэта такі тып чалавека і такая паталогія псіхікі. Неадэкватнае ўспрыняцце і няправільная ацэнка гэтага роду людзей прыводзяць да расплаты.

Спецыялісты–псіхолагі вядаюць, што нельга прасіць літасці ў забойцы і гвалтаўніка. Гэта толькі ўзбуджае і раззадорвае забойцаў. Найлепшы метад выратавання, калі нельга пазбегнуць нападу, — біць, біць на паражэнне.

Галадоўка ў акупацыйнай турме ва ўмовах антыдэмакратычнага рэжыму і бясправя выкарыстоўваецца рэжымам для паступовага забіцця асобы і ніяк не ўплывае на сам рэжым. Гэта трэба разумець і супрацьўляцца павольнаму забіццю, а не спрыяць яму.

У 1996-м, калі галадоўку ў турме трымалі Вячаслаў Сіўчык і Юрый Хадыка, толькі шчаслівы збег абставінаў (ці мо лёс) дазволіў прадухіліць смерць В.Сіўчыка і вызваліць абодвух з-пад варты. В.Сіўчык, які нікім не быў папярэджаны пра медыцынскія правілы галадоўкі, знаходзіўся ў крытычным стане, і дарогі назад ужо фактычна не было. Ніякія спробы грамадскасці ў Беларусі вызваліць арыштаваных і ніякія нашы з Сяргеем Навумчыкам захады перад заходнімі палітыкамі і арганізацыямі не мелі і не мелі поспеху з-за тых жа псіхалагічных асаблівасцяў Лукашэнкі, пра якія я казаў вышэй. На Лукашэнку тады, у 1996 годзе, мог паўздзейнічаць толькі Б.Ельцын. Але Ельцын не хацеў уздзейнічаць, бо БНФ для Расіі «враг», а Лукашэнка «друг».

Дапамог выпадак. Стала вядома, што рыхтуецца сустрэча Ельцына і Яўлінскага на прадмет выкарыстання галасоў выбаршчыкаў Яўлінскага (як аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты Расіі) у выбарчай кампаніі Ельцына. Павінен быў адбыцца гандаль. Своечасовую ініцыятыву тут праявіў Сяргей Навумчык. Праз польскі Хельсінкскі камітэт (дакладней, праз яго кіраўніка спадара Марэка Навіцкага) удалося выйсці на Сяргея Кавалёва, якога папрасілі паразмаўляць з Яўлінскім, каб той адной з умоваў «гандлю» з Ельцыным паставіў вызваленне В.Сіўчыка і Ю.Хадыкі. Яўлінскі згадзіўся і ўмову паставіў. У час размовы з Яўлінскім Ельцын вымушаны быў пазваніць Лукашэнку і патрабаваць вызваліць арыштаваных. Гэта выратавала справу. (Дарэчы, усім, хто спрыяў у справе вызвалення арыштаваных, засведчваем нашую ўдзячнасць.)

Улічваючы паводзіны Лукашэнкі і абставіны на Беларусі, ужо даўно пара звярнуць асаблівую ўвагу на абарону здароўя і жыцця вязняў рэжыму. «Вясна-96», якая нямала ўвагі надае гэтай справе, пэўна, магла б, як найбольш сур'ёзная праваабарончая арганізацыя ў Беларусі, распрацаваць спецыяльную праграму «выратавання вязняў у турме». Трэба спыніць мэтанакіраванае руйнаванне здароўя людзей у турме. Садысцкія забойствы, расцягнутыя ў часе, якія практыкуе рэжым, каб дагадзіць свайму калгаснаму сатрапу, ёсць забойствы з абцяжваючымі абставінамі. Пара ўсім прыглядзецца да павольнага мардавання людзей у турмах лукашысцкага рэжыму, бо гэта ёсць злачынства супраць чалавецтва, якое адбываецца ў нас на вачах.

*Эстонія*

# Дзеці будуюць сям'ю

**Дзеці без бацькоў — праблема, агульная для ўсіх краінаў. Аднак паўсюль яна вырашаецца па-рознаму. Вось прыклад Эстоніі.**

Непадалёк ад Таліна тры гады назад вырас невялікі пасёлак з 12 дамкоў — «Дзіцячае сяло». Тут знайшлі прытулак 83 дзіцяці — дарэчы, толькі чацвёра з іх круглыя сіроты. У кожным дамку жывуць 7—8 дзяцей. У іх ёсць свая мама. Гэта сям'я.

Каб стаць маці, трэба прайсці конкурс. Патрабаванні даволі жорсткія: узрост ад 35 да 50 гадоў, праца 24 гадзіны ў суткі, адзін выхадны ў тыдзень і 35 дзён адпачынку. Асабістае жыццё можна сабе дазволіць толькі ў час адпачынку. Дамова заключаецца на 18 гадоў. Маці нясе адказнасць за дзяцей перад мясцовай уладай. Зарплата — 6,5 тысяч крон (465 долараў) у месяц. Трэба сказаць, што конкурс на пасаду маці складаў восем чалавек на месца.

Па вялікім рахунку маці — не пасада, а стан душы. Жанчына, якая працуе ў «Дзіцячым сяле», не толькі наглядае за дзецьмі, гатуе, мые і прыбірае. Яна аб'ядноўвае адзінокіх хлопчыкаў і дзяўчынак у сям'ю, вырашае іхнія праблемы і канфлікты. Таму большасць дзяцей называюць яе не інакш як мама. А калі ў мамы выхадны, яе замяняе цётка. Калі ў мамы ёсць свае дзеці (такіх жанчын у штаце пяць), яны могуць жыць разам з усімі, але за іх утрыманне трэба плаціць самой. Дарэчы, у штаце двое выхавацеляў-мужчын. Яны кампенсуюць адсутнасць мужчынскага выхавання — займаюцца з дзецьмі спортам, нешта майструюць і да т.п.

Кожная сям'я вырашае сямейныя праблемы аўтаномна. Ёй выдзяляецца бюджэт з разліку 1.200 крон штомесяц на немаўля і 1.500 крон на вялікае дзіця (14 крон = 1 долар). Мама і дзеці размяркоўваюць гэтыя грошы самі — на харчы, адзенне, аплату за транспарт, камунальныя паслугі і г.д. Можна ашчаджаць на адпачынак і забавы — усё залежыць ад таго, на што сям'я хоча патраціць свае грошы. Дзеці вучацца размяркоўваць бюджэт і, выходзячы ў жыццё, ведаюць цану грошай, умеюць жыць па сродкам.



*Мамы-выхавацелькі кажуць, што адна з галоўных праблемаў — навучыць дзяцей слухаць адзін аднаго.*

Паводле задумы арганізатараў, дзеці будуць жыць у «Дзіцячым сяле» да 18 гадоў, але гэты тэрмін можа працягвацца (напрыклад, для студэнтаў). Дарэчы, мясцовыя ўлады гарантуюць выпускнікам «Дзіцячага сяла» жылплошчу (магчыма, у выглядзе крэдыту) і працу.

Фінансаванне праекта — асобнае пытанне, таму што дзяржава не выдзяляе ні кроны. Усе грошы ад дабрачынных арганізацыяў і прыватных ахвяраванняў, пераважна з-за мяжы. На кожным дамку вісіць шыльдачка з імёнамі дабрачынцаў, на чые грошы пабудаваны дом. Самі дабрачынцы — частыя госці «Дзіцячага сяла». Яны наведваюцца да сваіх падапечных, прывозяць гуманітарную дапамогу і... экскурсантаў. А што? Ім сапраўды ёсць што паказаць.

**Алена РОГ**

## Рынок оружия сузился

*New York Times* опубликовала статью с итогами торговли оружием в прошлом году. Главным мировым торговцем остаются США (у них — 44% рынка). Отрыв США от второго-третьего места велик, а за эти места идет жесткая борьба между Россией и Францией. Кроме того, сам рынок оружия серьезно сокращается, в основном за счет Азии и Ближнего Востока — сказывается кризис в Азии, не позволяющий странам региона закупать оружие в прежних количествах, а падение цен на нефть тормозит закупки крупнейшего любителя американской техники — Саудовской Аравии.

## Подвели советские турбины

В аэропорту столицы Эквадора — Кито при взлете потерпел катастрофу самолет ТУ-154 кубинской авиакомпании *Cubana*. На борту лайнера находились 76 пассажиров и 14 членов экипажа. Из них чудом выжили 22 человека. С ранениями и ожогами они доставлены в медицинские учреждения Кито. Помимо этого, жертвами трагедии стали пять подростков, игравших в футбол на окраине аэродрома. По предварительным данным, причиной крушения стала неисправность турбин. Не исключается и версия теракта.



*Латвія*

## Расіяне разбіраюць сваю станцыю

**Учора, 31 жніўня, у Латвіі перастала функцыянаваць расійская радыёлакацыйная станцыя (РЛС), якая размяшчаецца ў Скрундзе.**

Запланавана, што дэмантаж Скрундскай РЛС будзе праведзены да 29 лютага 2000 года. У ім возьмуць удзел 33 расійскія спецыялісты, паколькі дэмантаж станцыі — задача расійскага боку.

Масква была б зацікаўленая ў далейшай эксплуатацыі станцыі, якая, у прыватнасці, забяспечвае ранняе папярэджанне аб ракетным нападзе, але Рыга настойліва запатрабавала спыніць работу станцыі. Скрундская РЛС была пабудаваная яшчэ ў савецкія часы і пасля распаду СССР эксплуатавалася расійскімі вайскоўцамі ў адпаведнасці з двухбаковымі дамоўленасцямі. Масква плаціла за гэта Латвіі 5 млн. долараў штогод.

Аналагічная РЛС будуецца Расіяй у Беларусі каля Ганцавічаў Брэсцкай вобласці. Ясна, што Масква нам нічога за размяшчэнне на нашай тэрыторыі гэтага аб'екта не плаціць.

**Б.П.**

*Германія*

## Партыйныя грошы

**Пасля васьмігадовага расследавання спецыяльная камісія бундэстага ФРГ апублікавала сенсацыйныя звесткі аб памерах грашовых актываў камуністычнай партыі ГДР, якая кіравала Усходняй Германіяй больш за сорак гадоў.**

Экспертыза паказала, што пасля аб'яднання ГДР і ФРГ на рахунках Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі (САПГ) было больш за 2 млрд. нямецкіх марак, а на балансе партыі ўтрымлівалася 6.129 аб'ектаў нерухомасці. Эксперты камісіі сцвярджаюць, што непасрэдная спадкаемца ідэяў і грошай нямецкіх камуністаў — Партыя дэмакратычнага сацыялізму (ПДС) прыхавала 245 млн. марак, стварыўшы на пачатку 90-х гадоў больш за 100 фіктыўных кампаніяў.

Дзве трэція знойдзеных сродкаў ужо размеркаваны паміж федэральнымі землямі былой ГДР, рэшта пойдзе на навуковыя і культурныя мэты. Аднак работа камісіі не скончылася — цяпер яна будзе шукаць грошы кампартыі, што апынуліся за мяжой. Прадстаўнікі ПДС ужо заявілі, што лічаць публікацыю справаздачы камісіі ўсяго толькі палітычнай акцыяй, таму што гэта адбываецца напярэдадні парламенцкіх выбараў, намечаных на 27 верасня. Яшчэ ў 1995 годзе партыя, каб пазбегнуць скандалу, адмовілася на карысць дзяржавы ад усёй спадчыны кампартыі як у самой Германіі, так і за яе межамі.

**Алена ШЧАРБІНІНА**

*Кітай*

## Прынародны расстрэл

**У Кітаі, на стадыёне ў Шэньжэні (на мяжы з Ганконгам) быў праведзены масавы прынародны расстрэл.**

Расстралялі адразу 30 асуджаных, іх павінна было быць яшчэ на дзевяць больш, але тым пашанцавала, іх пакаранне вырашылі адкласці. Усе расстраляныя былі прыгавораныя спісам, на адным паседжанні суда — у рамках кампаніі па барацьбе са злачыннасцю. За што іх расстралялі? Напрыклад, адзін з пакараных быў асуджаны за тое, што забіў нажом жанчыну, трое іншых атрымалі «вышку» за разбой на дарогах.

Афіцыйныя кітайцы заяўляюць, што такія метады выхавання зараз неабходныя, бо ў краіне ўтварылася вельмі многа бандаў — а ўсё з-за беспрацоўя, выкліканага пераходам да рынкавай эканомікі. Арганізацыя *Amnesty International* падлічыла, што ў 90-х гадах у Кітаі адбылося столькі ж пакаранняў смерцю, колькі ва ўсім астатнім свеце.

**А.С.**

### Так боролась «Солидарность»

# Приговор народа вступил в силу

### Перешагнуть страх

Как же «Солидарности» удалось выстоять в 1981–1989 гг., когда против профсоюза были брошены все репрессивные силы государства: милиция, армия, госбезопасность?.. Ответ на этот вопрос заключается не столько в политических предпосылках, сколько в психологических. Страх — главное оружие и фундамент тоталитаризма. Поляков, как и нас, все время учили бояться. И поляки боялись. Боялись быть арестованными, уволенными, обойденными государственными подачками в виде премий, боялись испортить отношение с начальством...

Страх мог маскироваться поразному. От примитивного «да что я могу» до псевдоэлитарного «вся политика — дрянь, не стоит в нее соваться». Но в любом случае за этими словесными выверками был страх.

Главная заслуга «Солидарности» во время диктатуры заключалась в том, что ей удалось убедить людей перешагнуть это проклятое чувство. «Я не боюсь», — говорили сами себе поляки и осознавали, что сидеть в стороне, надеясь на то, что все сделает кто-либо другой, нет смысла. И таких людей, перешагнувших через страх, становилось все больше.

Наивно думать, что участие в сопротивлении требовало от людей качеств и навыков, связанных с настоящей подпольной работой. Как раз наоборот, сила «Солидарности» была в том, что простые люди организовывали сопротивление прямо по месту работы и жительства. Может быть, с точки зрения эффективности эта форма сопротивления не могла сравниться с работой профессиональных диссидентов. Однако КПД сопротивления на низовом уровне состоял в другом: люди, участвующие в самых примитивных акциях саботажа и несотрудничества, которые не грозили им серьезным наказанием, постепенно ломали в себе комплекс страха. Возвращение к категориям человеческого достоинства происходило постепенно и в конце концов привело к тому, что большинство поляков не могло больше мыслить себя в рамках системы. Это было настолько очевидно, что власть была вынуждена признать себя побежденной и пойти на уступки.

### Массовый байкот

Итак, низовой уровень сопротивления можно условно назвать несотрудничеством. Смысл этой формы борьбы состоял в том, чтобы как можно больше людей не принимали участия в делах, организованных властью. Так, например, несотрудничество предполагало отказ от участия в официальных собраниях, бойкот организованных властями лжереферендумов и лжевыборов. В случае если режим организовывал очередную кампанию, например, за введение нового субботника, люди просто не подписывали так называемые «письма или обращения трудящихся». Также было распространено явление не посещения официальных мероприятий или манифестаций.

Большого мужества, конечно, требовал гласный отказ от участия в сколачиваемых властями новых, якобы общественных, организациях, типа нашего «лукамола» (БПСМ). Но, в любом случае, можно было придумать подходящий предлог, чтобы не ходить на собрание такого рода «организаций», например, «заболела любимая теща».

Особенное внимание уделялось контактам со сторонниками диктатуры или ренегатам, предавшим демократическое движение. Как правило, люди старались просто не общаться с такого рода товарищами, выставляя их в коллективе как «белых ворон».

В случае контактов с силовыми структурами военных властей честные люди старались не давать никаких показаний, ссылаясь на плохую память и слабое зрение. Техническая или финансовая документация, связанная с деятельностью репрессивных структур, попавшая по ходу службы в руки честного человека, тут же запутывалась. Если органы диктатуры обращались за помощью, их тут же направляли по ложному пути. Плакаты, обращения, листовки, вывешенные властями, срывались. Выполнение правительственных заказов на производстве задерживалось.

Безусловно, избрав такой метод поведения, люди вызывали недовольство со стороны начальства и не могли рассчитывать на карьеру. Но, с другой стороны, кому нужна была карьера в обществе, где ценится не квалификация, а подхалимаж.

Всякий раз, когда у людей появлялась возможность без всякого риска для себя помешать выполнению работы, укрепляющую положение диктатуры, они обязательно ее использовали. Какими бы малыми и бессмысленными ни казались такие поступки, это были действия честных людей. С каждым днем таких людей становилось все больше. В такой ситуации, когда добрая половина граждан систематически вредила правительству, режим не мог удержаться долго.

### Триумф «Солидарности»

Именно такое «несотрудничество» определило развитие событий. Уже к середине 80-х всем стало ясно, что страна не имеет никаких шансов выйти из кризиса без достижения национального согласия. Единственный путь для этого заключался в признании и легализации «Солидарности». В конце концов у коммунистов просто не было выхода. Прокатившиеся в 1988 году забастовки, организованные независимым профсоюзом, отчетливо показали, что если не легализовать «Солидарность» сверху, она легализируется снизу, т.е. посредством революции. В 1989 году коммунисты были вынуждены признать «Солидарность» и пригласить Леха Валенсу и его коллег на так называемый круглый стол. К этому их подталкивал, кроме всего прочего, экономический кризис. Преодолеть экономическую блокаду со стороны Запада можно было лишь при условии решения проблемы прав человека.

Переговоры между коммунистами и «Солидарностью» привели к сложному компромиссу. Самая главная уступка властей заключалась в том, что треть состава польского Сейма избиралась свободно. 4 июля 1989 года состоялись выборы, которые стали триумфом для «Солидарности». Все кандидаты от независимого профсоюза были избраны в парламент. Правда, формально власть находилась еще в руках коммунистов, но для всех было очевидно, что с «Солидарностью» необходимо будет делиться. 24 августа 1989 года премьер-министром Польши стал представитель «Солидарности» и соратник Валенсы — Тадеуш Мазовецкий. Приговор народа вступил в силу.

**Кирилл КУДРЯВСКИЙ**

*(Окончание в след. номере. Начало в №№ 85—90)*

# Коррида или торада?

**Суд Лиссабона подтвердил, что в Португалии существует строгий запрет на проведение «корриды по-испански», то есть боя быков, который непременно должен заканчиваться убийством животного.**

Судебная инстанция тем самым ответила на запрос Национального общества защиты животных, которое заявило протест в связи с решением мэра небольшого городка Баранкос, где проживает 3.600 человек, провести «настоящую корриду».

В Португалии, в отличие от соседней Испании и ряда латиноамериканских стран, быков во время корриды не убивают. Да и называют там поединок человека с животным «торадой». Между тем в прошлые времена в этой стране коррида ничем не отличалась от испанской. Но однажды смертельно раненный матадор граф Аркуш проиграл быку. И тогда он попросил организаторов корриды и публику сохранить жизнь своему сопернику. Просьбу графа уважили. Произошло это в середине XVII века. А вскоре — в 1686 году — последовал соответствующий законодательный акт: подписанный королем Педру II закон, который и сегодня строго соблюдается.

Тем не менее жители ряда населенных пунктов Португалии сознательно идут на нарушение соответствующих законов и проводят у себя «корриду по-испански», прибегая к тем или иным хитростям. Так, любители корриды поселка Вилар Формозо решили проблему весьма оригинальным способом. Они договорились с жителями граничащего с ними испанского городка Фуэнтес де Оньоро о проведении совместной корриды, которая состоит как бы из двух актов. Первое ее действие проходит на территории Вилар Формозо с соблюдением португальских законов. Затем быка перегоняют на площадь соседнего поселка, благо он находится в сотне метров, где и завершается представление, но уже по законам испанской корриды.

Власти городка Баранкос (действия мэра которого рассматривал суд столицы) вот уже в течение 50 лет поступают еще проще. В дни «корриды по-испански» они договариваются с местной полицией, и та на время боя быков исчезает, появляясь лишь после окончания корриды.

Кстати, в Португалии даже появилась ассоциация в защиту настоящей корриды. Ее члены считают ханжеством запрет на убийство быка во время представления. «Представьте себе, что в течение 20 минут происходит издевательство над быком, которого оставляют в живых, чтобы он мучился, после чего отправляют на бойню. Не лучше ли дать ему возможность достойно умереть во время боя?» — задает вопрос профессор Карлуш Тельес, один из основателей ассоциации.

**Анатолий МЕДВЕДЕНКО**

# Как сделать хороший коньяк

**Известный в старину, но забытый ныне способ ускорения созревания коньяка успешно воскресил шведский виноторговец Олев Келт.**

В начале этого года он загрузил во французском Гавре свой корабль 54 бочками молодого коньяку, которым по всем канонам виноделия полагалось отлеживаться в погребах 7 лет. Однако по возвращении во французский порт после 3-месячного кругосветного плавания на Дальний Восток, затем через Панамский канал и Атлантику его коньяк имел, по оценкам самых строгих дегустаторов, все свойства напитка 7-летней выдержки. Причем качества содержимого его бочек оценивали придирчивые эксперты в самом городе Коньяк во Франции, куда он привез обратно свой товар. Здесь же коньяк из бочек был перелит в фирменные 40 тысяч бутылок, которые шведский виноторговец собирается продавать по всему миру.

Озадаченные достижением Олева Келта французские эксперты вспомнили, что метод ускоренного созревания коньяку использовался в прошлых веках моряками, уходившими в дальние плавания. Правда, не столько в коммерческих целях, сколько для личных нужд. Коньяк из корабельных погребов всегда имел отменный вкус и аромат. Бортовая качка, смена температур на разных широтах, эффекты перепадов атмосферного давления и земного притяжения волшебным образом влияют на ускорение процесса созревания коньяку.

**Александр КОНДРАШОВ**

# Итальянским мужчинам угрожает опасность

**По новым законам, запечатлеть на дамской перчатке поцелуй без согласия владелицы — значит, совершить «сексуальное домогательство», — преступление, караемое наказанием от года до семи лет тюремного заключения.**

В Неаполе 65-летний мужчина осужден за то, что со словами «любовь моя» пытался поцеловать юную даму. Ему удалось облобызать лишь пальчики перчатки. Дама ускользнула, а вот неаполитанец не ушел от ответа в суде. Там он узнал, что за «сексуальное домогательство» отделался «легким испугом» — годом заключения, которое может быть заменено штрафом в 25 миллионов лир. А если бы поцеловал в губы? Это уже трактовалось бы как «сексуальное насилие».

Однако, согласно закону, поцелуй в лоб не повлечет уголовного преследования или морального порицания. Окружен условностями поцелуй в щеку, в шею, неприкрытую часть руки, плечо. На «сексуальное насилие» такой поцелуй не тянет, зато на попытку нанести оскорбление — вполне.

Пока об этих законах в Италии знают далеко не все, поэтому и заявлений в полицию и в суд немного. Но незнание законов, как известно, не освобождает от наказания за их нарушение. Зная натуру и привычки итальянцев (особенно мужчин), уже в ближайшее время следует ожидать шквала исков от итальянских гражданок, смекнувших, как можно заработать новым способом.

**З.Н.**

# Седина в бороду...

**Что заставляет мужчину порвать узы брака, отказаться от детей и взвалить на себя бремя алиментов во имя другой женщины?**

Супружество, ставшее службой, опостылевшая будничность отношений с женой, взаимное непонимание, безрадостный секс — все это приводит к появлению другой женщины в жизни женатого мужчины. Она, эта другая, становится катализатором, способствующим принятию окончательного решения, хотя и связанного с душевными страданиями каждого из супругов.

Этим чувствам у мужчин противостоит ощущение собственной значимости, которое дает новый роман. Ведь когда человек чувствует себя любимым, его самооценка вырастает. Он невольно сравнивает себя нынешнего с прежним, издерганным напряженностью и трениями в семье: при требовательной или унылой супруге он чувствовал себя отторгнутым, подавленным, нелюбимым.

## Роман на стороне

Пословица «Седина в бороду, бес — в ребро» весьма актуальна. Время первой седины — это когда дети выросли и покинули (или покидают) родительский дом, когда мужчина уже реализовался в карьере и стал относительно более свободным на предмет любви на стороне.

При этом прочное служебное положение создает и материальные условия для нового романа. Да и супружество к тому моменту нередко теряет свою привлекательность в сексуальном плане. Как правило, и ограниченные интеллектуальные интересы жены, занятой исключительно детьми, приводят к отсутствию общих тем для бесед. Возникают мысли о том, что ведь есть же, кроме супруги, и иные дамы...

Нередко их поиск начинается значительно раньше, в начале брака: супруги устраивают общую жизнь, определяют правила совместного быта, и очень часто в это время их постигает отрезвление. Оно и понятно — в период предбрачного ухаживания каждый из них демонстрировал свои лучшие качества, а после свадьбы вдруг обнаруживаются другие, куда менее привлекательные.

С появлением ребенка кризис в отношениях может обостриться. Внимание жены отдано малышу. Она усталая, раздражительная, вечно занята и ждет большего внимания к себе. Муж же считает себя обойденным и видит выход из ситуации в обращении к внешнему источнику интереса. Им может стать хотя бы сотрудница, подруга жены, да и вообще кто угодно. Тут-то и испытывается на прочность не столько семья, сколько личность мужчины. Если он — человек зрелый, подобные кризисные моменты проходят у него иначе, чем у того, кто не способен совладать со своими эгоистическими желаниями и устремлениями.

## Кризис переходного периода

Как правило, в 45—50 лет у мужчины — первый внук. Почти паника. Деда преследует мысль: старею! И жена — бабушка! И он бежит, иной раз заводя подругу, которая моложе его сына или дочки.

Подобный кризис — кризис переходного возраста. Человек начинает подводить первые итоги и спрашивает себя, как он хочет прожить остаток жизни. Это время, когда брак проходит еще один очень трудный экзамен. Многие мужчины не прочь попытаться в этот момент начать все сначала.

Случается, но очень редко, что этот второй брак оказывается счастливым. Но чаще надежды все-таки не сбываются. Главная сложность второго, особенно разновозрастного, брака в том, что каждый из супругов приходит к нему с разным грузом пережитого и должен максимально выкладываться, чтобы нейтрализовать этот тяжелый груз, навалившийся на плечи.

## Вечная школа

Во всем цивилизованном мире легкое отношение к браку ныне сменяется пониманием ценности семьи. Раздаются призывы: «Надо учиться быть парой! Учиться вкладывать в семейные отношения время, чувства, мысли, деньги. Только это может привести к счастью».

Действительно: если приведенная выше поговорка о седой бороде и лукавом бесе справедлива (слава Богу!) не для всех, то другая народная мудрость — век живи, век учись — в тонком семейном деле совершенно незаменима.

# Даты і лёсы

## 1 верасня

Сусветны дзень міру. У Беларусі — яшчэ і Дзень ведаў.

**1923.** Землятрус у Японіі забраў жыцці 142.807 чалавек. У Токіо і Ёкагаме было разбурана 575 тысяч пабудоваў.

**1939.** Пачатак Другой сусветнай вайны: Германія напала на Польшчу.

**1941.** Адольф Гітлер аднавіў найвышэйшую ваенную ўзнагароду Германіі — Жалезны Крыж. Ордэн быў заснаваны ў 1813 годзе Фрыдрыхам Вільгельмам III. Пры Гітлеры ордэн меў восем ступеняў. Самая высокая з іх — Вялікі Крыж, якім быў узнагароджаны толькі Герман Герынг за кіраўніцтва нямецкай авіяцыяй пры захопе Францыі. Пасля вайны кавалерам ордэна не забаранялася насіць узнагароду, аднак толькі пры ўмове, што з Жалезнага Крыжа будзе знятая свастыка.

**1945.** У Беларусі пачалі працаваць адноўленыя пасля вайны 22 вышэйшыя навучальныя ўстановы, у якіх вучылася тады каля 5 тыс. студэнтаў і было каля 600 выкладчыкаў.

**1973.** Тры чалавекі загінулі і некалькі былі параненыя падчас выбуху самаробнай бомбы ў маўзалеі Леніна. Ад тэрарыста — пакрыўджанага на савецкую ўладу рэцыдывіста, які вярнуўся з чарговай 10-гадовай адсідкі, — практычна нічога не засталося. Аснойная сіла выбуху прыпала на саркафаг, але цела Леніна не пашкодзіла.

**1978.** У Віцебску выйшлі на маршрут першыя тралейбусы.

**1983.** Над Сахалінам быў збіты паўднёвакарэйскі «Боінг», які парушыў савецкую паветраную прастору. Загінулі 269 чалавек.

**1985.** На глыбіні каля 4.000 м былі знойдзеныя рэшткі карабля «Тытанік», што затануў пасля сутыкнення з айсбергам у 1912 годзе.

## 2 верасня

**1666.** У нядзелю з дому каралеўскага пекара пачаўся Вялікі лонданскі пажар. З-за моцнага ветру агонь перакінуўся на суседнія дамы. Праз чатыры дні 80% Лондана ператварылася ў галавешкі. Згарэла 13.000 дамоў, 89 цэркваў і стары кафедральны сабор св.Паўла, чалавечых ахвяраў было ўсяго 6.

**1933.** СССР падпісаў з фашысцкай Італіяй дагавор пра сяброўства, ненапад і нейтралітэт.

**1973.** У Азербайджане памёр селянін-доўгажыхар Шыралі Муслімаў, які пражыў нібыта 168 гадоў і нават паспеў адсвяткаваць 100-гадовы юбілей аднаго з сваіх унукаў.

## 3 верасня

**1658.** Памёр ад запалення лёгкіх англійскі дыктатар Олівер Кромвель, які 5 гадоў аднаасобна кіраваў краінай пасля разгону парламента ў 1653 г. Праз два гады новы парламент прагаласаваў за аднаўленне манархіі.

**1783.** Вялікабрытанія прызнала незалежнасць сваіх 13 паўночнаамерыканскіх калоніяў — Злучаных Штатаў Амерыкі.

**1875.** Нарадзіўся Фердынанд Паршэ — аўстрыйскі аўтаканструктар. У 1916 годзе ён стаў дырэктарам аўстрыйскага аддзялення кампаніі «Даймлер», а ў 1923 перабраўся ў Штутгарт. Праз восем гадоў Паршэ заснаваў сваю ўласную кампанію па вытворчасці спартыўных і гоначных аўтамабіляў. Пазней разам з сынам Фердынандам, якога ўсе звалі Феры, ён узначаліў праект стварэння «народнага аўтамабіля» — «фольксваген» — паводле ідэі Гітлера. У гады вайны Паршэ быў заняты ваеннымі праектамі, у прыватнасці, стварэннем танка «Тыгр». Пасля вайны Паршэ-бацька быў асуджаны французскім судом да некалькіх гадоў турмы, а ў пачатку 50-х з'явіўся першыя знакамітыя спартыўныя аўтамабілі «Паршэ».

**1918.** Савецкі ўрад прыняў пастанову «Аб забароне беспрацоўным адмаўляцца ад работы».

**1927.** Нарадзіўся выбітны беларускі пісьменнік, кінадраматург і публіцыст Алесь Адамовіч. Непрымірымы вораг айчыннай наменклатуры, Адамовіч параўноўваў Беларусь з Вандэяй (апірышчам раялістаў падчас Французскай рэвалюцыі), а сучасную вёску — з Атлантыдай, якая патанае ў гарэлцы.

**1932.** Загінуў Паўлік (Павел Трафімавіч) Марозаў — піянер, з якога ў савецкія часы рабілі героя за тое, што ён выдаў бальшавікам свайго бацьку: той супрацоўнічаў з кулакамі. У постсавецкія часы Марозаў стаў антыгероем мноства публіцыстычных артыкулаў, хоць быў усяго толькі ахвярай часу і ідэяў.

**1953.** М.Хрушчоў абвесціў пра павышэнне нарыхтоўчых цэнаў на сельгаспрадукцыю. Тым не менш рабаўніцтва вёскі працягвалася. Пшаніцу набывалі ў калгаснікаў па 1 капейцы за кілаграм, а муку прадавалі па 31 капейцы. Ялавічыну бралі па 23 капейкі, а прадавалі ў гарадах па 1,5 рубля.

**1967.** Швецыя перайшла на правабаковы рух. Гэта моцна паўплывала на шэрагі шведскіх левых палітычных сілаў — утварыліся дзве новыя партыі, Левая партыя—камуністы (адстойвалі ранейшыя правілы) і Рабочая партыя—камуністы (пагадзіліся на новаўвядзенне).

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1229 Нумар падпісаны ў друк 31/08/98 (16:43) Наклад — 19.800